# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

6 снежня 1991 г.
ПЯТНІЦА
№ 234 [21762]
Цана 20 кап.


## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### ПАЕДЗЕМ НА БЕЛАРУСКІМ ЛЕГКАВІКУ?

**МАГІЛЕЎ. (А. Санчук). Старшыня гарсавета, народны дэпутат СССР С. Габрусеў на сустрэчы з журналістамі і выбаршчыкамі заявіў, што першы беларускі легкавы аўтамабіль, зроблены ў Магілёве, ужо ў сакавіку маркуецца прадэманстраваць на галоўнай гарадской плошчы. Гэта будзе не нейкае там прывычнае нам аўто з бензінавым рухавіком, а самы сапраўдны электрамабіль. Вынікі паездкі ў Італію дэлегацыі горада і перагаворы з тамашнімі прадпрымальнікамі далі падставы С. Габрусеву зрабіць такое абнадзейлівае паведамленне. Візіт быў арганізаваны пры дапамозе Італа-беларускай гандлёвай палаты.**

Магіляўчане не першы ўжо раз хапаюцца за ідэю вытворчасці «легкавушкі» ў сваім горадзе. Калісьці такую ініцыятыву праяўляў і былы першы сакратар абкома КПБ і старшыня абласнога Савета В. Ляонаў. Меркавалася наладзіць зборку легкавых аўтамабіляў на базе вытворчых плошчаў завода «Магілёўсельмаш», але ідэя не знайшла падтрымкі ў саюзнага міністэрства аўтамабілебудавання. Паводле іх разлікаў, патрэбны былі агромністыя капіталаўкладанні, будаўніцтва новых вытворчых магутнасцей.

І вось новая спроба. Будзем спадзявацца, што цяперашняя ідэя не стане пустым праджэктам. Тым больш, што яе аўтары на вялікія маштабы пакуль не замахваюцца. Зборку 600 электрамабіляў у год прадугледжана наладзіць на базе невялікага доследна-эксперыментальнага завода, які належыць сістэме аграпрамтэхнікі. Па сутнасці, гэтае прадпрыемства ўяўляе сабой нядрэнна аснашчаныя майстэрні.

Магіляўчане дамовіліся з італьянскімі дзелавымі коламі аб супрацоўніцтве і ў іншых галінах эканомікі. С. Габрусеў зазначыў, што ўжо сёлета ў горадзе на Дняпры адкрываецца італьянскі магазін, у якім гандаль будзе весціся на рублі. З'явіўся шэраг праектаў стварэння магутнасцей па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі, вытворчасці фармакалагічных прэпаратаў, цыгарэт і г. д.

Старшыня гарсавета падкрэсліў, што прадстаўнікі Італа-беларускай гандлёвай палаты і італьянскія бізнесмены ўжо цяпер лічаць умовы для ўкладу сваіх інвестыцый у мясцовую эканоміку даволі спрыяльнымі.

### ПРАЛЕТАРЫЯМ ЁСЦЬ ШТО ГУБЛЯЦЬ, АЛЕ НЕ ХОЧАЦЦА

**На Мінскім вытворчым аб'яднанні імя Леніна распаўсюджана лістоўка свабоднага прафсаюза «Рабочая салідарнасць».**

«Атакай супраць уласнай вытворчасці» названы ў ёй загад генеральнага дырэктара прадпрыемства В. Мумая, які адмяняе выплату прэмій тым рабочым, чыя зарплата перавышае тарыфную стаўку больш чым у 2,5 раза.

«Рабочыя цэха № 6,— цытуем лістоўку,— патрабавалі ўжо адмены загада, дзеянне якога абяцае штомесячнае змяншэнне іх заработку на 115 рублёў. Атрымалі адмоўны адказ, яны рыхтуюць забастоўку... Заклікаем падтрымаць рабочых цэха № 6, якія выступілі ў абарону нашых агульных інтарэсаў».

Дасталося дырэктару аб'яднання і з іншай нагоды — дазваляе, маўляў, сабе раз'язджаць на «Мерседэсе», у той час як пераважная большасць рабочых жыве «на мяжы галечы».

БелаПАН.

### ПЕРАЖЫЦЬ ІНФЛЯЦЫЮ

МАЛАРЫТА. (Ю. Фёдарава). Відаць, у выгадную справу ва ўмовах інфляцыі дапамог уклацці грошы сваім вяскоўцам калгас «40 гадоў БССР», прапанаваўшы ім набыць цялушак. Многія прывялі ў свой хлеў другую і нават трэцюю рагулю. У сярэднім карова з будучым прыплодам абышлася пакупніку ў 3 тысячы рублёў. Ну, а той, хто не мае такой сумы, бярэ жывёлу бясплатна і заключае дагавор з гаспадаркай на працягу трох гадоў здаваць па 3 тысячы кілаграмаў малака.

### ПРЫСМАКІ З-ЗА МЯЖЫ

СВЕТЛАГОРСК. Па 27 бляшанак ялавічнай тушонкі бясплатна атрымалі кожны, хто працуе і вучыцца ў Светлагорскім індустрыяльным тэхнікуме.

Што і казаць, падтрымка ў наш нялёгкі час вельмі адчувальная. А аказана яна па лініі Чырвонага Крыжа Германіі, які ў якасці эканамічнай дапамогі выдзеліў для сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў Гомельскай вобласці мясныя кансервы. Вось і Светлагорскаму тэхнікуму дасталося амаль 10 тон гэтага прадукту.

### ВА ЎРАДЗЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Распараджэннем урада рэспублікі Міністэрству сувязі і інфарматыкі даручана прыняць меры па рэалізацыі пагаднення паміж Саўмінам Беларусі і Федэрацыяй прафсаюзаў у частцы павышэння ў 1992 годзе работнікам галіны сярэдняй заработнай платы ў два разы, іншых сацыяльна важных для іх пытанняў. У большай ступені гэта датычыцца паштальёнаў, апаратараў, сартавальнікаў, тэлеграфістаў і тэлефаністаў, электраманцёраў і кабельшчыкаў-спайшчыкаў.

* * *

У сувязі з абвяшчэннем палітычнай і эканамічнай самастойнасці Рэспублікі Беларусь і ў мэтах больш эфектыўнага ажыццяўлення ўрадам рэспублікі эканамічных і культурных сувязей з іншымі суверэннымі дзяржавамі Савет Міністраў рэспублікі пастанавіў пераўтварыць пастаяннае прадстаўніцтва Саўміна Беларусі пры Саўміне СССР у пастаяннае прадстаўніцтва Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у горадзе Маскве.

У Палажэнні аб пастаянным прадстаўніцтве, якое даручана падрыхтаваць у бліжэйшы час, вялікае месца будзе адведзена рабоце па развіцці сувязей з акрэдытаванымі ў Маскве міжнароднымі арганізацыямі, дыпламатычнымі, гандлёвымі і культурнымі прадстаўніцтвамі замежных дзяржаў, а таксама садзейнічанню арганізацыям рэспублікі ў пашырэнні супрацоўніцтва з замежнымі краінамі.

Аляксей ЗАЙКОЎСКІ.

## ПАСТАНОВА
### Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб дапаўненні пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку дня нечарговай восьмай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання»**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Дапоўніць пастанову Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 15 лістапада 1991 года «Аб парадку дня нечарговай восьмай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання» пунктам 7 наступнага зместу:

«7. Аб праекце Дагавора аб Саюзе Суверэнных Дзяржаў».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

2 снежня 1991 г.
г. Мінск.

### ДА ВЕДАМА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Сёмая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 10 снежня 1991 года ў 10 гадзін раніцы ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

# У ЗША ўсё ж ведаюць пра Беларусь

**Напярэдадні**

**Дзяржаўны сакратар ЗША Джэймс Бейкер у час свайго блізкага візіту ў былы СССР мае намер наведаць не толькі Маскву і Кіеў, як меркавалася раней, але і Мінск.**

**Інфармацыя гэта наколькі нечаканая, настолькі ж і лагічная. Пасля рэферэндуму на Украіне і неаднаразовых заяў Л. Краўчука аб тым, што яго рэспубліка не падпіша новы Саюзны дагавор, Захад усё больш скіроўвае свае позіркі не на прывідны цэнтр, а на сталіцы суверэнных рэспублік. І хоць Беларусь ніколі не пярэчыла волі М. Гарбачова і заўсёды падтрымлівала ідэю новага Саюза, сітуацыя разгортваецца так, што заўтра Саюзны дагавор падпісваць проста не будзе каму. Б. Ельцын нядаўна заявіў, што паставіць свой подпіс пад дагаворам толькі пасля таго, як гэта зробіць прэзідэнт Украіны.**

**З кім у такім разе застанецца Беларусь? І ці варта пахвалы нязменная пазіцыя нашых вядучых палітыкаў, якія не толькі не бачаць будучыні Беларусі без Саюза, але і не прадпрымаюць рашучых крокаў на выпадак, калі рэспубліка насуперак волі сваіх лідэраў вымушана будзе стаць сапраўды незалежнай дзяржавай, а не часткай канфедэрацыі?**

**БССР не мела і не праводзіла ўласнай знешняй палітыкі. Рэспубліка Беларусь у многім па інерцыі ідзе ў фарватэры палітыкі цэнтра, нібы не заўважаючы, што гэты цэнтр тыдзень за тыднем страчвае апошнія ўладныя паўнамоцтвы. У выніку Беларусь засталася адзінай з еўрапейскіх рэспублік былога СССР, якая шукае выратавання ў палітычным саюзе з Расіяй і сярэднеазіяцкімі рэспублікамі. У той час, як усе нашы блізкія суседзі, родныя нам этнічна, з якімі мы стагоддзямі жылі ў адной дзяржаве, якіх з намі аб'ядноўвае шмат агульнага ў эканоміцы, культуры, рэлігіі, — шукаюць шлях у Еўропу, — мы з надзеяй глядзім на Усход.**

**М. Гарбачоў у сваім нядаўнім выступленні па тэлебачанні папярэдзіў, што развал СССР будзе мець катастрафічныя вынікі для рэспублік былога Саюза.**

**Л. Краўчук, палемізуючы з Прэзідэнтам былога Саюза, выказаў думку, што замест палітычнага саюза рэспублікі могуць заключыць двухбаковыя пагадненні: гэта нікому не перашкодзіць ні супрацоўнічаць, ні гандляваць, ні сябраваць.**

**Пакуль афіцыяльны Мінск з уласцівай яму нетаропкасцю ўслухоўваецца ў палітычныя заклінанні, што чуюцца з Крамля, — Украіну пачынаюць прызнаваць у свеце як суверэнную незалежную дзяржаву.**

**Калі намер Дж. Бейкера наведаць Беларусь ажыццявіцца, — гэта будзе, бадай, першы афіцыяльны візіт у Мінск заходняга палітычнага дзеяча такога высокага рангу. (Першая ў гісторыі сустрэча дзяржсакратара ЗША з міністрам замежных спраў Беларусі П. Краўчанкам адбылася нядаўна ў Злучаных Штатах). Галоўнай прычынай і падставай візіту наўрад ці з'яўляюцца заслугі Беларусі ў справе абароны дэмакратыі і імкненні да дзяржаўнай незалежнасці. Хутчэй за ўсё гэта візіт ветлівасці ў славянскую краіну, якую дагэтуль абміналі заходнія дыпламаты, накіроўваючыся да яе суседзяў. А яшчэ, — небеспадстаўны разлік на тое, што рана ці позна свету давядзецца мець справу з 10-мільённай Беларуссю як з незалежнай краінай у цэнтры Еўропы.**

**Валянцін ЖДАНКО,**
**аглядальнік «Звязды».**

# Зварот медыцынскіх работнікаў Рэспублікі Беларусь

Суайчыннікі!

Наша з Вамі жыццё знаходзіцца пад пагрозай, мы аказаліся безабароннымі ў выпадку любой хваробы, траўмы, няшчаснага выпадку. Заўчасна могуць загінуць дзесяткі тысяч людзей, асабліва маці і дзяцей, якія яшчэ доўга маглі б жыць і прыносіць карысць грамадству.

Эканамічнае становішча, якое пагаршаецца, развал былога СССР прывялі да парушэння паставак медыкаментаў з усіх рэспублік, практычна спынілася закупка іх за мяжой. У сувязі з гэтым у аптэках няма самых простых і тым больш жыццёва важных медыкаментаў, у стацыянарах засталіся запасы на 1—2 месяцы.

Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь прынята ў чэрвені пастанова, якая прадпісвала прадпрыемствам накіроўваць на закупку медыкаментаў і інструментарыю не менш як 10 працэнтаў ад паступіўшых валютных сродкаў. Да сённяшняга дня сродкі не адлічваюцца. Акрамя таго, Рэспубліка Беларусь абавязана ў рамках эканамічнага пагаднення паміж суверэннымі рэспублікамі выплаціць частку агульнай запазычанасці за папярэднія пастаўкі медыкаментаў па імпарту ў памеры 15,2 млн. інв. руб.

База фармакалагічных прадпрыемстваў у рэспубліцы вельмі слабая і ў бліжэйшы час немагчыма забяспечыць выпуск лекавых сродкаў у дастатковым асартыменце. Неабходна будаваць, на гэта пойдзе некалькі гадоў. Выйсце на бліжэйшыя гады толькі ў закупках, як у рамках Саюза Суверэнных Дзяржаў, так і за мяжой.

Суграмадзяне!

Мы звяртаемся да Вас, да кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў усіх форм уласнасці, прыватных асоб, замежных грамадзян за дапамогай. У імя выратавання жыцця кожнага з нас неабходны значныя сродкі для тэрміновай закупкі медыкаментаў і мединструментаў.

Мы звяртаемся да Вашай міласэрнасці, верым у Вашу добрую волю і выказваем надзею на Вашу дапамогу.

Няхай наш заклік знойдзе водгук у сэрцы кожнага. Абмяркуйце яго ў калектывах, у сям'і, з самім сабой, знайдзіце магчымасць аказаць дапамогу, пералічыўшы пасільную суму на разліковы рахунак № 141072 у гардырэкцыі Мінскбізнесбанка, валютны рахунак № 2650700033/002 у Белзнешэканомбанку г. Мінска.

Мы заклікаем кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый, прадпрымальнікаў укласці сродкі і дзелавы вопыт у стварэнне ў рэспубліцы фармацэўтычнай прамысловасці.

Падзяка соцень тысяч выратаваных хворых, Вашых сваякоў і блізкіх будзе Вам узнагародай.

**А. Тамашоў,** намеснік міністра; **І. Антонаў,** дырэктар Навукова-даследчага інстытута неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі, акадэмік АН Рэспублікі Беларусь, член-карэспандэнт АМН СССР, прафесар; **Л. Гайдукевіч,** намеснік загадчыцы аптэкі № 97 г. Мінска; **П. Ашурка,** галоўны ўрач Рэспубліканскага шпіталя інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны; **Л. Шыла,** урач-стаматолаг; **М. Івашкевіч,** загадчык упраўлення аховы здароўя Мінскага аблвыканкома, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь; **А. Шакуцін,** загадчык аддзялення экстраннай хірургіі 10-й клінічнай бальніцы г. Мінска; **М. Кісялёў,** намеснік галоўнага ўрача 1-й клінічнай бальніцы г. Мінска; **А. Кубарка,** рэктар Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута, прафесар; **М. Панкрацік,** галоўная медыцынская сястра 10-й клінічнай бальніцы г. Мінска; **Л. Сакалоўская,** начальнік аддзела лячэбна-прафілактычнай дапамогі ўпраўлення аховы здароўя Мінскага гарвыканкома; **В. Мацюхін,** дырэктар Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны, акадэмік АМН СССР, прафесар; **А. Руцкі,** дырэктар Беларускага дзяржаўнага інстытута ўдасканалення ўрачоў, член-карэспандэнт АН БССР, прафесар; **А. Шот,** загадчык кафедры хірургіі Мінскага мединстытута, прафесар.

# НОВЫЯ ГАСПАДАРЫ СТАРОГА ДОМА

У іншай якасці пачаў служыць грамадству былы грамадска-палітычны цэнтр у Гродна. Камфартабельны трохпавярховы будынак са шкла і бетону, які практычна пуставаў у апошні час, цяпер абжываюць студэнты і выкладчыкі размешчанага па суседству універсітэта. Пакуль сюды перасяліўся факультэт беларускай філалогіі і культуры. Але ў хуткім часе яго суседам стане яшчэ адзін — педагогікі і методыкі пачатковага навучання. Гэтым нечаканым наваселлем значна аблегчана зацяжная праблема арганізацыі заняткаў ВНУ, што літаральна задыхалася з-за недахвату аўдыторый. Праўда, да вырашэння пытання аб лёсе партыйнай маёмасці новае памяшканне лічыцца ўзятым у кароткатэрміновую арэнду.

Раней новым гаспадарам перайшоў будынак былога абкома КПБ. Частку старога памяшкання заняў гісторыка-археалагічны музей, частку — абласная бібліятэка. Яшчэ раней незапланаваныя наваселлі справілі дзіцячая паліклініка і філіял дзіцячай музычнай школы. Першая перабралася ў будынак былой спецпаліклінікі, другі — у ціхі каменны асабняк, дзе некалькі дзесяцігоддзяў жылі першыя сакратары абкома КПБ.

Каму ў горадзе дастануцца іншыя партыйныя памяшканні — будынкі гаркома і двух райкомаў — будзе вядома пазней. А пакуль яны пустуюць, выклікаючы ў гараджан, мякка кажучы, здзіўленне.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ,**
**кар. БЕЛТА.**

ДА 100-ГОДДЗЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

# «...ШЧАСЛІЎ ТОЙ, КАМУ ДАВЯЛОСЯ БЫЦЬ ВАСІЛЬКОМ»

Калі мы звяртаемся да творчасці вялікага паэта ці проста згадваем яго імя, мы не заўсёды задумваемся, якія ж асновы нацыянальнага быцця выяўляе ён у сваім слове, які духоўны патэнцыял народа ўвасабляе ўласнай асобай.

Ужо не адно пакаленне беларусаў заклінае: Максім, Максім... І ставарае свой воблік паэта, адпаведны настроям, павевам часу, духоўным патрэбам. Але кожны раз, спасцігаючы паэта, мы адчуваем, што ён апярэджвае нас у нашым духоўным развіцці, пакідае нас на дарогах пошукаў, ужо пракладзеных ім самім, і лёгкай юначай хадой ідзе да новых духоўных далягляду.

Сёння мы толькі набліжаемся да таго стану, таго ўзроўню самаўсведамлення нацыі і чалавечай асобы, якія сцвердзіў Максім Багдановіч уласным лёсам і мастацкім вопытам.

Яшчэ на пачатку XX стагоддзя, у найсвяцейшы час нацыянальнага Адраджэння беларусаў, ён высакародна і самаахвярна прайшоў той шлях ад чужыны да нацыянальнай існасці, які ва ўмовах сучасных асіміляцыйных працэсаў вымушаны зноў і зноў праходзіць сыны і дочкі Беларусі. Але як чалавек гарманічны і адкрыты духоўнаму вопыту сусветнай культуры, ён узыходзіў да сваёй Бацькаўшчыны, адначасова ўзвышаючы яе нацыянальнае быццё да зорных вышыняў чалавецтва. Успомнім, як у 1915 годзе, у час ваеннай разрухі, голаду і пагібелі мільёнаў, словам трагічнай і светлай сваёй Беларусі Багдановіч усклікаў:

**Нашто ж на зямлі**
**Сваркі і звадкі, боль і горыч,**
**Калі ўсе мы разам ляцім**
**Да зор?**

З пазіцый сучаснага закамплексаванага чалавека, адарванага ад родных каранёў і не далучанага да здабыткаў сусветнай культуры і цывілізацыі, фатальна невырашальнай здаецца праблема, пастаўленая Багдановічам у артыкуле «Забыты шлях»: «Было б горш, чым нядбальствам, нічога не ўзяць з таго, што сотні народаў праз тысячы год сабралі ў скарбніцу светавой культуры. Але занасіць толькі чужое, не развіваючы свайго, — гэта яшчэ горш: гэта знача глуміць народную душу».

Толькі жабрачай беднасцю духу можна вытлумачыць упартае нежаданне многіх дзеячаў тутэйшасці паяднаць беларускую нацыянальную школу і культуру з сусветнай культурай і адукацыяй. Бо іншага шляху з нацыянальнага небыцця, чым гэты «забыты шлях» развіцця народнага духу, няма.

Скрозь цемру гістарычнага беспамяцтва прабіваюцца да нас велічныя, поўныя ўласнай годнасці і гордасці за родную зямлю постаці асветнікаў, чые вобразы ўвасобіў Багдановіч у сваім паэтычным слове, — летапісец, перапісчык, Скарына. Паэтычным цыклам «Старая Беларусь», сваімі навуковымі і публіцыстычнымі артыкуламі Багдановіч выхоўваў у суайчыннікаў пачуццё прыналежнасці да нацыі з вялікай гісторыяй і кніжнай культурай. Кніга выводзіла нас у свет, адкрывала іншым народам нашыя духоўныя скарбы, ратавала ад адзіноты ў чалавецтве. Гэтак з народам. І гэтае ж пачуццё валодала самім паэтам, для якога кніга была найвялікшым сэнсам яго зямнога быцця:

**У краіне светлай, дзе я ўміраю,**
**У белым доме ля сіняй бухты,**
**Я не самотны, я кнігу маю...**

Меўся на ўвазе паэтычны «Вянок». І была яшчэ адна кніга, над якой Багдановіч працаваў у самыя апошнія свае дні: беларускі буквар.

Той недапісаны буквар, нашчадкі якога дзесяцігоддзямі выганяліся са школы толькі за тое, што неслі беларускаму дзіцяці роднае слова.

Між тым, Максім Багдановіч перасцерагаў: «...устараняючы беларускую мову са школы, мы вядзём да растраты вынікаў аграмаднай, шматвяковай духоўнай работы цэлага народа...»

Боль і горыч цэлага народа, над святынямі якога глуміліся свае і чужынцы, выказаў Багдановіч у многіх вершах з уласцівым яму грамадзянскім тэмпераментам. Яны шырока цытаваліся і завучваліся, акрамя хіба што аднаго, найбольш «крамольнага», прысвечанага занядбанаму сімвалу дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, — Пагоні.

У народаў, для якіх ніколі не паўставала трагічнага пытання: быць або не быць? — оды на дзяржаўныя сімвалы маглі ствараცца дзеля прыдворных уцех. Трагедыйная ж патэтыка Багдановіча была абумоўлена высакароднымі мэтамі нацыянальнага Адраджэння, абуджэння нацыянальнай самасвядомасці. У гербе Пагоня нібы ажывала эпоха Вялікага княства Літоўскага — эпоха старабеларускай дзяржаўнасці, да якой і сёння звяртаемся мы, шукаючы грунт незалежнасці і будучыні.

У вершы Багдановіча старажытны коннік нібы зрываецца з герба — столькі ў ім дынамікі, жыццёвай сілы:

**У белай пене праносяцца коні, —**
**Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...**
**Старадаўняй Літоўскай Пагоні**
**Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.**
**У бязмежную даль вы ляціце,**
**А за вамі, прад вамі — гады.**
**Вы за кім у пагоню спяшыце?**
**Дзе шляхі вашы йдуць і куды?**

Багдановіч, ацэньваючы духоўную сітуацыю пачатку XX стагоддзя, дае ўласную мастацкую версію Пагоні, абрушваючы ўзнятыя мячы воінаў-патрыётаў не на чужынцаў, што нападалі на Бацькаўшчыну аднекуль звонку, а на ўласных адшчапенцаў, што чуюцца на роднай зямлі як заваёўнікі.

**Мо яны, Беларусь, панясліся**
**За тваімі дзяцьмі ўздагон,**
**Што забылі цябе, адракліся,**
**Прадалі і аддалі ў палон?**
**Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,**
**Не давайце чужынцамі быць!**
**Хай пачуюць, як сэрца начамі**
**Аб радзімай старонцы баліць...**

Максім Багдановіч спасцігаў нацыянальную рэчаіснасць як шматгранную з'яву з глыбіннымі сацыяльна-гістарычнымі і духоўнымі працэсамі. Мастацкі вопыт самога народа падказваў яму формы ўвасаблення старажытнага светасузірання беларусаў, натурфіласофскага складу мыслення як адметнай рысы духоўнага вобліку народа. Успомнім вельмі своеасаблівы фантастычны каларыт такіх вершаў, як «Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун...», «Возера», «Вадзянік», «Змяіны цар». Гэта была паэтычная спроба зазірнуць у тысячагадовую даўніну, у першапачатак развіцця нацыянальнай свядомасці.

Непаўторны духоўны свет адкрыў для сябе паэт і ў народнай песні, у фальклорнай эпіцы. Ён мог, як і яго сучаснік Максім Гарэцкі, сказаць: «А народ мой — народ-паэт, народ-лірнік... дзеля душы ён шукаў і шукаў без канца і стварыў цікавейшую гісторыю, багатую не заваяваннямі другіх народаў, а заваяваннямі духа, заваяваннямі ў вывучэнні самога сябе».

Шукаючы паэтычныя сродкі, арганічна блізкія нацыянальнаму ладу мастацкага мыслення, Багдановіч спасцігае гармонію народнай песні, і яго зорка Венера, якая лучыць закаханыя сэрцы, узыходзіць над роднай зямлёю, каб назаўсёды асвятліць яе святлом любові і харaства.

Суладнасць чалавечай душы і красы навакольнага свету стае запарукай самога жыцця. Паэт сцвярджае духоўную цэльнасць чалавека; яго ідэал яднае сферу духоўных памкненняў і свет зямной існасці.

**Бачу я, з прыродай зліўшыся душой,**
**Як дрыжаць ад ветру зоркі нада мной,**
**Чую ў цішы, як расце трава.**

Багдановіч вельмі тонка адчувае, як душа яго народа горнецца да хараства. Слуцкія ткачыхі, змушаныя шчыраваць над заморскім узорам, у прыліве пачуцця выконваюць геніяльную імправізацыю, — і на залататканым пасе, як сіняя зорка палёў, расцвітае родны васілёк («Слуцкія ткачыхі»). Гэтую кветку — красу зямлі — шкадуе выпалаць з жытняга поля гаспадар, які ведае, «чаго варты хлеб» («Апокрыф»).

Сёння, калі ў свядомасці многіх людзей зрушаны духоўныя арыенціры і адбываецца змена каштоўнасцяў, варта нагадаць прарочыя словы мудрай Багдановічавай прытчы: «Я ж гавару вам: добра быць коласам; але шчасліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?»

Гэтымі словамі з «Апокрыфа» Хрыстос прамаўляе па-беларуску.

Так Багдановіч вітае свой блаславёны народ — блаславаўляе красою.

**Люба ТАРАСЮК.**

## ФАКТ

У ДАІ аднаго з маскоўскіх раёнаў прапанавалі новы від барацьбы з п'янствам за рулём. Калі прапанова пройдзе, тут будуць запраўляць бензінам машыны па гарэлачных талонах. Хочаш піць — кідай катацца!

***

**Прэзідэнт ЗША Джордж Буш падпісаў законапраект, які прадугледжвае прадастаўленне рэжыму найбольшага спрыяння ў гандлі ЗША з Венгрыяй, Чэха-Славакіяй, Літвой, Латвіяй і Эстоніяй. У дакумент уключана і палажэнне, якое здымае абмежаванні на імпарт у ЗША залатых манет з СССР.**

***

Якуцкія маці будуць мець цяпер аплачаны водпуск па цяжарнасці і родах 140 дзён, а ў выпадку нараджэння двойні — 180 дзён. Акрамя таго, на кожнае дзіця бясплатна выдаецца камплект бялізны. Пастанову прыняў Вярхоўны Савет Якуціі, а фінансаваць будзе Савет Міністраў і савет прафсаюзаў рэспублікі.

***

**Знешэканомбанк аднавіў продаж валюты грамадзянам.**

**Як паведаміў намеснік старшыні праўлення банка Валерый Люльчаў, вызначаны новыя курсы куплі і продажу СКВ. Цяпер, пасля адмены турыстычнага курсу, банк будзе купляць валюту па 90 рублёў за долар, а прадаваць па 99 рублёў, што, між іншым, дзешавей за біржавы курс, які роўны 110 рублям.**

***

Праграма «600 секунд» зноў выйдзе ў эфір. Адсутнасць яе выклікала пратэст грамадскасці, і савет галоўных рэдактараў праграм прызнаў памылковым рашэнне аб закрыцці праграмы, якое прыняў тыдзень назад генеральны дырэктар Пецярбургскай тэлерадыёкампаніі Віктар Югін.

***

**Міністэрства фінансаў СССР напамінае, што аплата аблігацый дзяржаўных пазык развіцця народнай гаспадаркі СССР выпуску 1947—1956 гадоў працягваецца да 15 снежня 1991 года.**

***

Яшчэ адна новая хвароба зарэгістравана ў Ніжнявартаўску. Гэта нязвыклае захворванне скуры назвалі псеўдакаростай. Распаўсюджвальнікамі хваробы, на думку ўрачоў, з'яўляюцца бадзячыя сабакі і каты, а крыніцай — пацукі.

***

**Праезд у грамадскім транспарце сталіцы Латвіі каштуе цяпер 60 капеек, а штраф з «зайцоў» гарадскія ўлады вырашылі павялічыць да 50 рублёў. Не трэба браць білет толькі двум катэгорыям грамадзян: беспрацоўным і старым за 70 гадоў. Месячны праязны білет каштуе 33 рублі.**

***

**У радзільным доме горада Кіраўска адкрываюцца палаты з вялікім камфортам. Жадаючыя адчуць яго на сабе павінны будуць заплаціць тысячу рублёў. Частка гэтай аплаты пойдзе персаналу.**

***

Як стала вядома інфармацыйнаму агенцтву «БелаПАН», у хуткім часе пасля падаўлення путча некалькі супрацоўнікаў Мінскага аблвыканкома (з кіруючай вярхушкі) набылі праз абласное таварыства паляўнічых і рыбаловаў наразную зброю. Мяркуецца, карабіны.

Аляксандр Антонавіч Кілбас, старшыня таварыства, праўда, запэўніў карэспандэнта, што зроблена гэта было ў адпаведнасці з законам, па дазволу гарадскога або абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў.

І, магчыма, факт супадзення часу куплі з паслялутчаўскімі днямі выпадковы.

Мы і не думаем спрачацца. Але, надумай хто-небудзь з ненадзеленых уладай купіць зброю — колькі месяцаў пайшло б на гэта?

Дарэчы, па рашэнню Мінскага абласнога Савета пры ім дзейнічае камісія па прывілеях. Можа, яна не пакіне без увагі і апісаны ў гэтай заметцы факт?

*(Па матэрыялах ТАСС і друку).*

ФАКТ ФАКТ


ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# ЁСЦЬ ВА ЎРАДА САВЕТНІКІ

**Распараджэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь народны дэпутат М. СКАРЫНІН назначаны галоўным саветнікам Старшыні Саўміна Беларусі.**

**Наш няштатны карэспандэнт Аляксей ЗАЙКОЎСКІ папрасіў Мікалая Паўлавіча адказаць на шэраг пытанняў.**

**— У сувязі з чым узнікла неабходнасць стварэння службы саветнікаў?**

— Перш за ўсё я хацеў бы адзначыць тое, што ў цяперашняй складанай абстаноўцы, якая так хутка мяняецца, вельмі важным з'яўляецца прыняцце ўрадам канкрэтных рашэнняў. I пажадана, каб гэтыя рашэнні базіраваліся на навуковай аснове. Чаго граху таіць, многія ж пытанні, падрыхтаваныя апаратам, маюць адценне ведамаснасці. I я лічу, што тут якраз і патрэбна нейкая дадатковая, калі хочаце, незалежная экспертыза, навуковая прапрацоўка ўсіх матэрыялаў. Служба саветнікаў павінна наладзіць падрыхтоўчы працэс: сабраць спецыялістаў, вучоных, эканамістаў, стварыць часовы творчы калектыў і ўсім разам «па паліцах раскласці» тую або іншую праблему, г. зн. падрыхтаваць матэрыял для прыняцця рашэнняў. Усё астатняе — справа ўрада, прымаць або адпраўляць на дапрацоўку. Хачу заўважыць, што ў іншых рэспубліках, напрыклад, Расіі, Казахстане, апрача службы саветнікаў ёсць эканамічныя і кансультатыўныя саветы.

## У калідорах улады

**— Запрашэнне на работу было ўспрынята вамі адразу, без роздуму?**

— Не. Я пастараўся ўсё ўзважыць. Мне многія задавалі пытанне: навошта табе гэта, ведаем жа, што вельмі спадабалася табе работа ў Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях працы, цэн, занятасці і сацыяльнай абароненасці насельніцтва. Я працаваў намеснікам у Аляксандра Віктаравіча Саснова, цудоўнага і прыстойнага чалавека.

**— І што вы ім адказалі?**

— Па-першае, на частку пытання я ўжо даў адказ. А па-другое, я хацеў параўнаць работу ў парламенце і работу ва ўрадзе.

**— Ну і як?**

— Магу адно сказаць — каб усе тыя, хто крытыкуе ўрад, прыйшлі і папрацавалі ў яго апараце месяц-другі, то яны былі б зусім іншай думкі аб яго дзейнасці.

Наш урад працуе ва ўмовах крызісу, ва ўмовах пераходу да рынкавай эканомікі, дзе разбураюцца старыя структуры, стэрэатыпы мыслення і гаспадарання. Нарэшце, з'яўляюцца новыя функцыі кіравання, кардынавання, якія змялі на сваім шляху функцыі камандавання. Напэўна, ва ўсякага ўрада ў такой сітуацыі будуць цяжкасці, недахопы, таму што мы вырашаем зусім новыя задачы, прычым ва ўмовах эканамічнага крызісу і неразберыхі.

Прэм'ер-міністр запрашаў многіх народных дэпутатаў працаваць ва ўрадзе, уключаючы дэпутатаў ад апазіцыі — калі ласка, прыходзьце, працуйце, паказвайце, як і што трэба рабіць. Няхай любы дэпутат прыходзіць і прымае ўдзел у падрыхтоўцы матэрыялаў. Давайце дзейнічаць усе разам на карысць народа, плысці ў адной лодцы. Аднак на гэты заклік мала хто адгукнуўся.

Што датычыцца заявы апазіцыі БНФ, то я расцэньваю яе як неканструктыўную пазіцыю. Ва ўрада ёсць прабелы, але калі браць у цэлым, то наша эканоміка ў параўнанні з іншымі рэспублікамі знаходзіцца ў больш устойлівым становішчы.

**— А заява ўрада рэспублікі?**

— Яна, на маю думку, прагучала своечасова. Урад выказаў свой пункт гледжання. Я лічу, што адным з недахопаў урада з'яўляецца тое, што ён мала звяртаецца да народа, мала з ім гаворыць. Ёсць жа прэса, тэлебачанне, радыё, сустрэчы з працоўнымі калектывамі, нарэшце. І гэта прынцыпова важна ў цяперашняй сітуацыі. Павінна ж нарэшце быць нейкая яснасць у кожнага чалавека адносна цэн, прыватызацыі, пераходу да рынку. У большасці людзей пакуль што невыразнае аб гэтым уяўленне, а члены ўрада адмоўчваюцца. Ну, а калі і ідзе інфармацыя па тых або іншых пытаннях, то яна выкладаецца сухой і непапулярнай мовай.

# Чытач просіць слова

## ГРАНІЦА ПАВІННА ПРЫНОСІЦЬ ПРЫБЫТАК...

Як дэпутат і грамадзянін Рэспублікі Беларусь, выказваю сваё абурэнне Брэсцкаму гарвыканкому, які закрыў мяжу на замок. Згодзен, што санітарны стан тэрыторыі дрэнны, але людзі ў гэтым не вінаватыя. У мінулым годзе чарга была на 3 дні, у гэтым — на 6—7 дзён. Скажыце, а хто падумаў пра турыстаў, што за свае грошы пераносяць гэтыя пакуты? Для таго, каб іх тут не збіралася па 20 тысяч чалавек, я бачу выхад у наступным:

1. Для разгрузкі «галоўных варотаў» на Захад арганізаваць КПП на граніцу ў вёсках Пагранічная і Токары Камянецкага раёна. Гэта асабліва зручна зрабіць у вёсцы Пагранічная.

2. Для разгрузкі і паляпшэння работы пагранічнай службы чыгуначнай станцыі Брэст — Цэнтральны патрэбна дамовіцца з польскім бокам аб адкрыцці новага маршрута поезда Брэст — Беласток ці Мінск — Беласток, звязаўшы сталіцу нашай рэспублікі з Беластоцкім ваяводствам у Польшчы, дзе пражывае вялікая колькасць беларусаў, праз чыгуначную станцыю Высока-Літоўск. Маршрут Брэст — Беласток больш падыходзіць, бо тут вузкая каляіна. Чыгуначная дарога праз Цірасполь моцна загружана, а праз Высока-Літоўск былая ваенна-таварная дарога, лічы, зараз пустуе. Спачатку нават мытны кантроль можна праходзіць у Брэсце, а затым арганізаваць на чыгуначнай станцыі Высока-Літоўск у цудоўным прасторным будынку чыгуначнага вакзала. Чыгуначныя станцыі Высока-Літоўск і Чарэмха ў Польшчы знаходзяцца на адлегласці 5—6 км ад граніцы, і асаблівых цяжкасцей тут не будзе.

3. У сувязі з гэтым павялічыць колькасць пагранвойскаў на чыгуначнай станцыі Высока-Літоўск прыкладна ў 3 разы з улікам мытнай службы і КПП у вёсках Пагранічная і Токары. Размясціць пагранвойскі можна ў 2-павярховым будынку былой ваеннай камендатуры, а ў апошні час сярэдняй школы, якая цяпер пустуе.

Мы павінны не закрываць граніцу, а ствараць умовы людзям, і няхай кожны турыст плаціць 3 долары, а на аўтадарозе 10—15 долараў за праезд, але на працягу гадзіны ці хоць бы 3 гадзін ён павінен перасекчы граніцу, і тады санітарная зона будзе чыстай. Граніца павінна прыносіць прыбытак Рэспубліцы Беларусь, гораду Брэсту, Брэсцкаму і Камянецкаму раёнам.

**М. БАЦУК,**
**дэпутат Брэсцкага райсавета народных дэпутатаў.**

## СПАЧАТКУ СЕМ РАЗОЎ АДМЕРАЕМ...

Увядзенне ў нашай рэспубліцы так званых купонаў як радавы працаўнік ацэньваю даволі супярэчліва. З аднаго боку, пішуць і гавораць, што, маўляў, такая мера дазволіць хоць крыху навесці парадак у гандлі. Але я асабіста ўпэўнены, што з'явяцца (і ў немалой колькасці) ахвотнікі падрабіць купоны. Бо чулі і чыталі ўжо пра фальшывыя талоны. І зноў нямала тавараў пойдзе налева. А купоны стануць проста (як і талоны) паперкай для самазаспакаення пакупнікоў.

З другога боку, давайце цвяроза глядзець на жыццё. Што, у нас у рэспубліцы ўжо вырашана жыллёвая праблема? Напрыклад, я хачу купіць ці пабудаваць дом. Мне патрэбны грошы. А дзе іх узяць? Трэба ў нечым сябе абмяжоўваць, адкладваць. Дык навошта мне тыя купоны, калі я не збіраюся распыляць свае кроўныя па дробязях, а імкнуся пусціць іх у вялікую неабходную справу? Аналагічна і з мэбляй.

Далей... Нямала і такіх, у каго ўсё неабходнае ёсць. Даўшы ім на рукі купоны, мы самі створым дадатковы віток спекуляцыі. Успомнім пра «візіткі». У Гомелі і цяпер сустракаюцца аб'явы аб куплі-продажу "візітак" з укладышамі. Няўжо ў вярхах не разумеюць прапісных ісцін? Таму, пакуль не позна, пытанне аб увядзенні купонаў трэба разгледзець з розных бакоў.

Я так думаю: лепш бы ўстанавілі больш жорсткі кантроль у гандлі, бо нямала ёсць скаргаў ад пакупнікоў у адрас работнікаў магазінаў, якія прадаюць віна-гарэлачныя вырабы, цукар... Куды гэта варта: тыднямі людзі ходзяць і не могуць атаварыць талоны на спіртное. Затое ў спекулянтаў яно ёсць у любы час сутак: вось дзе корань зла!

Так што лепш сем разоў адмераць, адзін — адрэзаць. Каб у чарговы раз азлобіць працоўны народ, пенсіянераў і інвалідаў, розуму шмат не трэба, а вось арганізаваць належны сервіс — нешта не атрымліваецца.

**А. БРАНКОЎСКІ,**
**рабочы ВА «Гомсельмаш».**

## КАЛІ ПРА НАС УСПОМНЯЦЬ?

Жывём мы ў складаны час. Не трэба тлумачыць, чаму. Дзяржава, многія працоўныя калектывы стараюцца рознымі шляхамі аблегчыць матэрыяльнае становішча людзей: выплачваюць адначасовыя дапамогі ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай, забяспечваюць пасылкамі гуманітарнай дапамогі, Чырвонага Крыжа, аздараўляюць малазабяспечаныя сем'і, аплачваюць праезд, павышаюць зарплату...

Падобныя меры ўсім вядомы. Абдзеленымі ўсім гэтым аказаліся тэхнічныя работнікі былых партыйных арганізацый. Доўгі час аклад прыбіральшчыцы і вартаўніка быў 90 рублёў. Незадоўга да красавіцкага павелічэння цэн нам дабавілі па дзесятцы. Такой мізэрнай па цяперашняй сітуацыі зарплаты няма ні ў адным працоўным калектыве.

Увесь час нас цешылі надзеяй зрабіць пераразлік з мая 1991 года. Але такога па вядомых прычынах не адбылося. Зараз галоўны бухгалтар абкома КПБ В. Сувалаў настойвае на звальненні нас па ўласнаму жаданню.

Але ж будынак — Гомельскі грамадска-палітычны цэнтр — функцыяніруе. Тут працуюць арганізацыі, якія арандуюць памяшканне. Гэта асацыяцыя «Зялёны шчыт», інфармацыйны цэнтр па Чарнобылю, малое аграпрадпрыемства, жаночы савет, літаратурна-мастацкае прадпрыемства «Творчасць», абласное аддзяленне Фонду міру, сацыялагічны цэнтр, асацыяцыя творчых ініцыятыў. Займаецца ў нас маладзёжны тэатр, ансамбль «Рытм», праводзяцца канцэрты філармоніі і г. д.

На запытанні, калі нам павысяць зарплату, адказ адзін: прыняць такое рашэнне можа толькі бюро абкома КПБ (якога няма), або што на гэта няма грошай.

У грамадска-палітычным цэнтры павінны працаваць чатыры вартаўнікі, а ў наяўнасці толькі тры, бо яшчэ аднаго не знайшлі з-за малой зарплаты.

Бязвыхаднае становішча з вартаўнікамі-вахцёрамі прывяло да таго, што пасля рэпетыцый тут дзяжурыць кіраўнік ансамбля «Рытм», ён жа рэжысёр, балетмайстар, лаўрэат трох Усесаюзных фестываляў народнай творчасці...

На парозе чарговае павышэнне цэн, а заработную плату нам ні разу не павышалі. Да якога часу ў нас не будзе сапраўднага гаспадара, які б паклапаціўся аб нас?

**Ад тэхнічных работнікаў Гомельскага грамадска-палітычнага цэнтра вартаўнік**
**Р. ЖУКАВА.**

## ТАНЦАВАЛІ МЫ ТУСТЭП

Помню, калісьці, яшчэ да вайны, як зайграюць музыкі ці то польку, ці кракавяк, ці падэспань, ці кадрылю, — дык дзяўчаты на танцах аж дрыжалі. Асабліва калі гралі тустэп з літаўрамі. Сёння і танец, і музычны інструмент не памятаюць. А тустэп быў самым папулярным танцам у Беларусі. Што ж датычыць літаўраў, то лічылі так: як вяселле без гарэлкі, так і музыка без літаўраў. Цяпер пытаешся ў музыкантаў пра пералічаныя танцы — ніхто іх нават і не ведае.

Дык вось, хочацца, каб па тэлевізару вяліся заняткі па старым беларускім танцы. Каб расказалі, колькі ёсць розных полек, колькі старых мазурак, вальсаў і факстротаў існуе ў Беларусі. Каб паказалі літаўры— і як з імі граюць, і як яны гучаць.

Цяпер як глядзіш перадачы па тэлебачанні, то дзіву даешся, як кепска граюць гарманісты, якія кепскія гармонікі. Няма ўжо тых інструментаў, якія калісьці рабілі ў Мар'інай Горцы браты Мазанікі. Яны тады праславілі сваімі інструментамі не толькі Мар'іну Горку, а і ўсю Беларусь.

А як хочацца, каб у Беларусі аднавілася музыка, аднавіліся танцы. Каб гонар быў у душы за свой родны кут, за сваю радзіму.

**А. КУЗЬМА,**
**былы музыка.**

Мінская вобласць.

# Мытны камітэт ёсць, мытняў няма

У Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь адбылася рабочая нарада, на якой усебакова быў абмеркаваны ход выканання пастаноў «Аб устанаўленні мытнай граніцы» і «Аб мерах па развіццю гандлёва-эканамічных адносін з Рэспублікай Польшча».

Здавалася б, толькі два тыдні як прыняты гэтыя дакументы, часу мінула няшмат, але ўрад рэспублікі вырашыў заслухаць кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, камітэтаў і аблвыканкомаў, што ўжо зроблена. Выкананне гэтых пастаноў, можна сказаць, на асаблівым кантролі. Забягаючы наперад, скажам, што першы намеснік Старшыні Саўміна Беларусі Міхаіл Мясніковіч даў усім зразумець, што пара заканчваць усялякія раскачкі, цяпер патрабаванні будуць строгія.

У сваім выступленні выконваючы абавязкі старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта рэспублікі Пётр Крачко доўга расказваў, як вывучалася граніца з суседнімі дзяржавамі — Літвой і Латвіяй, як праходзіла абследаванне месц, дзе можна было б устанавіць мытныя пасты па часовай схеме. Паказаў план мерапрыемстваў па выкананню пастаноў, крыху паплакаўся, што не хапае на правядзенне ўсёй работы матэрыяльных сродкаў, транспарту, ды і спецыялістаў, якія ведаюць мытную справу.

Вядома, Пятра Васільевіча недзе можна зразумець, цяжкасцей хапае, бо з прыбалтыйскімі рэспублікамі ў нас няма дзяржаўнай граніцы, а ёсць адміністрацыйна - тэрытарыяльная. А сёння, калі ідзе парад суверэнітэтаў, з'явілася яшчэ адна граніца — граніца сям'і, якую нельга абмежаваць толькі, напрыклад, Літвой і Беларуссю. Усё гэта патрабуе дэталёвай прапрацоўкі, але ёсць шэраг пытанняў, якія лёгка вырашаюцца сёння. Аднак, што ж канкрэтна было зроблена? На гэта пытанне П. Крачко так і не змог адказаць.

Словам, практычная работа мытным камітэтам яшчэ не распачата і кіраўніцтва павінна зрабіць сур'ёзныя вывады. Крытыкаваліся таксама Брэсцкі, Гродзенскі і Віцебскі аблвыканкомы, якія дагэтуль чакаюць нейкіх дадатковых рэкамендацый.

— Лягчэй за ўсё ўвесці забаронныя меры для праезду турыстаў у Польшчу, — падкрэсліў М. Мясніковіч,— а вось хутчэй гэтыя меры адмяніць аблвыканкомы чамусьці не спяшаюцца.

Шэраг заўваг па рабоце з сумежнымі дзяржавамі атрымала ў свой адрас Міністэрства замежных спраў, нямала нараканняў выклікала работа кіраўніцтва Беларускай чыгункі.

У рашэнні па абмяркоўваемых пытаннях міністэрствам і ведамствам, аблвыканкомам зроблены канкрэтныя даручэнні. Дзяржаўнаму мытнаму камітэту рэспублікі разам з аблвыканкомамі даручана неадкладна пачынаць разгортванне мытных службаў на граніцы з Літвой і Латвіяй. Дзяржбуд рэспублікі на працягу тыдня павінен устанавіць простыя, лёгка ўзводзімыя збудаванні для работы мытных службаў.

Міністэрствам замежных і ўнутраных спраў рэспублікі даручана забяспечыць з 1 студзеня 1992 года спрошчаны парадак выязных дакументаў для паездак грамадзян Беларусі ў Польшчу.

Брэсцкаму, Гродзенскаму аблвыканкомам, зацікаўленым міністэрствам і ведамствам вырашыць у I квартале наступнага года пытанне аб адкрыцці каля населеных пунктаў Дамачава і Бераставіца пунктаў пропуску для грамадзян Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча.

## Прадпрымальніцтва па-маладзечанску

**У Маладзечна ствараюцца непрывычныя структуры, за кошт якіх, паводле меркаванняў яго кіраўнікоў, горад павінен выжыць і моцна стаць на ногі цывілізаванага прадпрымальніцтва. Першыя крокі зроблены. Гэта і бізнес-цэнтр, і два зарэгістраваныя камерцыйныя банкі — філіял банка «Беларусь» і ніжнявартаўскага «Альянса», дзесяткі паўпрыватных магазінаў. Паўднёвакарэйская фірма «ТТЛ» плануе адкрыць валютны магазін па продажу тэхнікі. Дзейнічае філіял змешанага прадпрыемства «Белкампексін» — фірма «Пінгвін»...**

**Гандаль і супрацоўніцтва з замежнымі фірмамі сталі рэальнасцю. У малым савецка-балгарскім прадпрыемстве «Дзіслава» ўмелыя майстрыхі шыюць элегантныя модныя курткі па заказу буйных прадпрыемстваў горада. Гарвыканком, які з'яўляецца сузаснавальнікам усіх гэтых прадпрыемстваў, атрымлівае долю прыбытку ад іх дзейнасці і папаўняе сваю казну.**

**Гарадскія ўлады разлічваюць таксама на супрацоўніцтва з буйнымі прамысловымі прадпрыемствамі, з дапамогай якіх змогуць уступіць ва ўзаемавыгадныя кантакты з калгасамі і саўгасамі, іншымі вытворцамі сельскагаспадарчай прадукцыі ў раёне. Мэта — насыціць спажывецкі рынак маладзечанскага рэгіёна прадуктамі, таварамі і паслугамі.**



**НА ЗДЫМКУ: швачкі Тамара ПОЛАЗ і Ала МІСЮЛЬ шыюць адзенне ў кааператыве «Праца».**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, (БЕЛТА).**

# Да Бога—на роднай мове

**(Працяг. Пачатак у № 233).**

Такую развітую для свайго часу мову рымскія папы не маглі забараніць у практыцы богаслужэння. Толькі тыя ксяндзы, што ў распаўсюджванні каталіцызму на Беларусі бачылі перш за ўсё палітычны, а затым ужо рэлігійны акт, рабілі розныя перашкоды для беларускай мовы. Але і на такіх святароў знаходзілі ўправу. Падобнага роду дэструктыўныя дачыненні некаторых ксяндзоў да беларускай мовы атрымалі строгае асуджэнне на Віленскіх саборах 1604, 1607 і 1613 гг. Вялікі клопат пра яе праяўляў віленскі епіскап Мікалай Сцяпан Пац, які ў 1682 годзе загадаў у святы на простай мове гаварыць народныя пропаведзі, а па нядзелях тлумачыць на ёй Евангелле ці катэхізіснае абгрунтаванне веры. На гэтым настойваў і Віленскі епіскап Зянковіч, калі запрасіў у лютым 1744 года каталіцкае духавенства сваёй епархіі на сабор у кафедральны храм святога Станіслава ў Вільні. Спасылаючыся на выдадзеную ў 1742 годзе булу папы Бенядзікта XIV, ён запатрабаваў ад духоўных асобаў мовіць казанні і выконваць дадатковае богаслужэнне паводле звычаю продкаў на простанароднай мове.

Як бачым, у апошнім выпадку вышэйшыя асобы каталіцкай царквы на Беларусі выступілі ў абарону беларускай мовы ўжо ў той час, калі яе афіцыйна забаранілі (1697 г.) выкарыстоўваць ва ўсіх відах службовага справаводства, моцна пацяснілі ў навучальных установах. Такое звужэнне сацыяльных функцый беларускай мовы самым адмоўным чынам паўплывала і на маштабы выкарыстання яе на ўзроўні сямейна-бытавых, міжасобасных зносін людзей. У новых пакаленняў беларусаў паступова фармаваўся погляд на сваю мову як на недасканалы сродак у справе абслугоўвання найважнейшых сфераў чалавечай дзейнасці, асабліва дзяржаўнага і судовага апаратаў. Пры такіх варунках ужо не назіраліся, як у XVI—XVII стст., шматлікія выпадкі выступленняў этнічна самасвядомых святароў за ўвядзенне беларускай мовы ў каталіцкую царкву. Дзесьці з сярэдзіны XVIII ст. практычна адзінай тут мовай стала польская.

А НІЯКІХ сур'ёзных спробаў па вяртанні беларускай мовы ў касцёл не рабілася і пасля таго, як у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь далучылі да Расійскай імперыі. І не рабілі галоўным чынам таму, што доўгі час яе афіцыйныя і духоўныя ўлады лічылі ўсіх католікаў заходнерускіх земляў за палякаў. Дый наогул для імперскага двара і Найсвяцейшага сінода не існавала паняцця беларуская народнасць, таму калі ў моўнай палітыцы праваслаўных і каталіцкіх храмаў маглі ўзнікаць якія-небудзь пытанні, дык яны датычылі толькі рускай і польскай моваў.

Галоўным у рэлігійным жыцці пасля ўключэння Беларусі ў склад Расійскай імперыі з'ўлялася перацягненне беларусаў-уніятаў у лона праваслаўнай царквы. Нечакана-негадана для яе найвышэйшых іерархаў гэты

## Гісторыя без «белых плям»

працэс вельмі зацягнуўся, таму вырашылі завяршыць яго не столькі добраахвотна, як праз прыняцце адпаведнага акта. Адбылося гэта ў 1839 годзе.

Гэта нікога іншага, як ксяндзоў, заслуга ў тым, што найбольшым аўтарытэтам для многіх беларусаў былі касцёл і польскі па этнічным паходжанні ці паводле самаўсведамлення памешчык, ад волі якога так моцна залежаў стан жыцця вернікаў каталіцкай рэлігіі. Паўплываць на іх настрой можна было толькі праз сам касцёл. Але як? — усё часцей і часцей задумваліся ў Пецярбурзе і Маскве. Ён жа і па форме, і па змесце з'ява выключна польская. Дык мо пайсці на яго распалячванне? Вось тое пытанне, якое хвалявала не толькі праваслаўнае духавенства, царскі ўрад, але і многіх інтэлігентных рускіх людзей, зацікаўленых у панаванні сваёй культуры і на абсягах беларускай зямлі.

Распалячванне касцёла перш за ўсё разумелася як выцясненне з богаслужэння польскай мовы і замена яе рускай, чаго, аднак, не дазваляла рабіць тое месца, якое займала польская мова не толькі ў касцёле, але і ў самім жыцці насельніцтва Заходне-Рускага краю. Пэўны час нават у некаторых праваслаўных храмах яна гучала з вуснаў былых уніяцкіх свяшчэннікаў пры чытанні пропаведзяў. Ёю яны нярэдка карысталіся і ў сямейна-бытавых умовах. Толькі польскую мову ў якасці літургічнай прызнавалі і многія простыя прыхаджане з ліку былых уніятаў. Яны ніяк не жадалі развітацца з польскімі пацерамі, у час службы Богу карысталіся польскімі малітоўнікамі, спявалі па-польску гімны і псалмы.

Духоўныя і свецкія ўлады Расіі імкнуліся ўсімі сродкамі падтрымоўваць у народзе думку, што толькі руская праваслаўная царква — і ні якая іншая — мае выключнае права на рускую мову. Каб па тых ці іншых прычынах на яе не ўздумалі прэтэндаваць паасобныя служыцелі каталіцкага кліру, сама дзяржава патурбавалася аб забеспячэнні іх малітоўнікамі на польскай мове. Непакоіла толькі, што падобнага роду акцыя вымушала карэннае насельніцтва Паўночна-Заходняга краю імкнуцца да авалодвання польскай мовай, якой яно як след так і не навучылася за шматгадовы перыяд акаталічвання і паланізацыі.

ПА-РОЗНАМУ сустрэлі і самі ксяндзы незвычайную для іх практыкі ідэю распалячвання касцёла. Прыхільнікі яе, вядома, былі, асабліва сярод тых, хто каталіцкае веравызнанне не звязваў з польскай нацыянальнасцю, быў у душы праціўнікам гвалтоўнага апалячвання з дапамогай рымска-каталіцкай царквы карэнных насельнікаў Паўночна-Заходняга краю, да якіх і сам належаў. Некаторыя нават выношвалі высакародную думку, што ў выніку распалячвання касцёла ўдасца хоць у нейкай форме ў яго дзейнасць увесці і беларускую мову.

Стойкім прыхільнікам новага курсу духоўных і свецкіх уладаў Расійскай імперыі да каталіцкай царквы праявіў сябе канонік Ф. Я. Сенчыкоўскі, які першым у Паўночна-Заходнім краі пачаў весці дадатковае богаслужэнне і гаварыць пропаведзі па-руску. Калі з другой паловы 70-х гадоў ён пачаў выконваць абавязкі візітатара касцёлаў Мінскай губерні, дык на шлях русіфікацыі каталіцкай царквы настойліва імкнуўся — і не без поспеху — схіліць падначаленых яму святароў. Патрэбна сказаць, што ў гэтай губерні, у адрозненне ад Віленскай ці Гродзенскай, ідэі каталіцызму не дужа добра прышчапляліся, таму на Міншчыне не так цяжка было з распалячваннем касцёла. У выніку за кароткі час візітатарства Сенчыкоўскага з 52 касцёлаў губерні ў 38 дабавачнае богаслужэнне і казанні выконваліся па-руску. Рускую мову пачалі выкарыстоўваць і пры хрышчэнні дзяцей паводле рымска-каталіцкага абраду, што часта служыла падставай называць іх рускімі.

Ф. Я. Сенчыкоўскі быў не толькі практык, але і ў пэўнай ступені тэарэтык палітыкі распалячвання касцёла. Па гэтай праблеме ім выказана нямала думак, з якімі лічыліся ў цэнтры.

Слушнай была думка Сенчыкоўскага аб адсутнасці ўсялякіх этнічных адрозненняў паміж беларусамі рымска-каталіцкага і грэка-праваслаўнага веравызнанняў. У шэрагу выказванняў (але далёка не ва ўсіх) ён прызнаваў, што як у першых, так і ў другіх адна і тая ж прыродная беларуская мова. Сустракаецца ў яго і этнонім беларус, аднак беларускі народ ён усё ж лічыў не больш як адгалінаваннем чыста рускага паходжання. Разважаючы адносна гэтага, яму вельмі хацелася выслужыцца перад уладу маючымі і ў той жа час не пакрыўдзіць сваіх супляменнікаў, мо таму і сустракаюцца ў яго пісаннях выразы накшталт такога: «...народ, які жыве ў межах Мінскай губерні, ёсць народ беларускі, прыродная мова якога ёсць руская мова...» У апошняе сцвярджэнне, думаецца, сёння нават не паверыць і той мінчук, які мае самыя мізэрныя ўяўленні і веды пра сваё нацыянальнае паходжанне і мову.

Актыўных прыхільнікаў палітыкі распалячвання касцёла налічвалася нямала і ў іншых беларускіх губернях. Аднак былі і такія, што ўпарта супраціўляліся ёй, згаджаліся на распалячванне толькі з прычыны страху застацца ў няласцы ў русіфікаванай мясцовай адміністрацыі. Пацвярджаецца гэта такім фактам, датаваным 1872 годам: з 616 свяшчэннікаў Віленскай епархіі выказалі згоду яе кіраўніку весці дадатковае богаслужэнне на рускай мове 115 чалавек, але на практыцы далёка не ўсе яны прытрымліваліся дадзенага слова. І не прытрымліваліся часта толькі таму, што сустракалі шалёнае супраціўленне распалячванню касцёла і з боку яго радавых парафіян, якіх умела падбухторвалі да гэтага польскія памешчыкі.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.**

**(Заканчэнне будзе).**

# Споведзь старога майстра

Мне часта даводзіцца чуць скаргі ад архітэктараў на тое, што праца іх марнуецца, што праекты няма каму выконваць. Хто вінаваты ў гэтым? У першую чаргу — самі архітэктары. Дакладней, Саюз архітэктараў і Дзяржбуд. Гэта яны стварылі такія ўмовы для таленавітых аддзелачнікаў, што іх становіцца ўсё менш.

Ва ўсім свеце мастацкае рамяство надзвычай прэстыжнае. Для здольных майстроў ствараюць усе ўмовы працы і жыцця. Высакакласны аддзелачнік — гэта такі ж талент, як мастак, пісьменнік ці артыст.

Да 60-х гадоў у Беларусі былі шырока вядомымі два таленавітыя аддзелачнікі. Гэта альфрэйшчык Дрэйцэр і мармуроўшчык па мянушцы Іспанец (прозвішча яго не памятаю). У гэтых майстроў былі неблагія вучні, але ў 70-я гады яны аказаліся нікому не патрэбнымі. Яны склалі аснову вядомага 7-га трэста. Але цікавых і складаных работ ужо не рабілі. Самі майстры дыскваліфікаваліся і вучняў не рыхтавалі. Самыя таленавітыя з майстроў-яўрэяў паехалі ў ЗША і Ізраіль. Напрыклад, лепшы вучань Дрэйцэра — Коган — вельмі папулярны маляр у ЗША. Яго стаўка — 50 долараў за гадзіну.

Я калісьці стаяў ля вытокаў часопіса «Архитектура и строительство Белоруссии». Яшчэ тады дамагаўся, каб на яго старонках асвятлялася практыка аддзелачных работ, змяшчаліся фота цікавых аб'ектаў. Вяртаўся я да гэтага пытання шмат разоў. Але разумення не знаходзіў. Пра мяне пісалі. Тэлебачанне рабіла перадачу, і на гэтым усё заканчвалася. Цяпер, у 60-гадовым узросце, я яшчэ маю сілы і веды. Хацеў бы нешта рабіць, але ўмоў для гэтага ніякіх. Адзінае — аднаўленне роспісаў культавых будынкаў. Цяпер працую над роспісамі унікальнага помніка культуры Беларусі — Мікалаеўскага касцёла 1519 г. Апошні раз іх аднаўлялі ў 1934 годзе. Класічнае барока. Вельмі прыгожае.

Я на справе даказаў сваё майстэрства. І вось выходжу на пенсію, а вы паглядзіце маю працоўную кніжку — хто я? Ды ніхто, мазюка. Зняважлівыя адносіны да майстроў зрабілі сваю справу. Майстроў проста не стала. Толькі сумленны чалавек, не п'яніца, фанатык сваёй справы можа быць майстрам. Гэта выключная рэдкасць. Гэту рэдкасць трэба выхоўваць і берагчы. Так робяць ва ўсім свеце. Ну, а нашы адносіны вядомыя.

Гэты ліст адрасуецца ў першую чаргу старшыні Дзяржбуда і старшыні Саюза архітэктараў. Я неаднойчы да гэтых асоб спрабаваў дабрацца, але мяне да іх не дапусцілі. Таму і разлічваю на дапамогу газеты.

**А. НАЛІВАЕЎ.**

г. Мінск.

